Беларуская Маладзёжная

№15 (353)
19.04.2002 — 28.04.2002

Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета

Заснавана ў чэрвені 1994 г.

Фото IREX/ProMedia

• За першы квартал бягучага году аб'ём вытворчасці на Магілёўшчыне скараціўся на 2.7%. Затое аб'ём злачыннасці ў краіне вырас за той жа перыяд на цэлых 4%.

*"Я люблю количество, уважаю качество"*

• Парламент Даніі рашуча адстойвае законапраект аб легалізацыі марыхуаны. А ў Гомельскім універсітэце забаранілі паліць тытунь — прапітрафіўшыхся студэнтаў на першы раз чакае вымова, на другі — пазбаўленне стыпендыі, на трэці — адлічэнне.

*"Хана котенку — пусть не курит"*

• Нягледзячы на з'яўленне канкурэнтаў, кампанія МЦС разлічвае да канца году амаль падвоіць колькасць сваіх абанентаў у Беларусі. А ў Амерыцы распрацаваныя новыя мабільныя тэлефоны-нашыйнікі. Шыю ўладара абвівае спецыяльны шнур, канструкцыя якога аналагічная ларынгафонам звычайнага танкавага шлёму.

*"Да и сам я словно пес в цепи..."*

• 20-гадовы праграміст з Пакістану мула Абдул Кахара Мунтакім распрацаваў адмысловы IRC-кліент для ісламскіх экстрэмістаў. Два недахопы: праграма мае недасканалую абарону і не дазваляе падключацца да эратычных чатаў, выдаючы заклік ігнараваць спакусы. А вось Папа Рымскі Ян Павал ІІ для сувязі з манахамі-францысканцамі ў акупаваным Віфлееме карыстаецца звычайным тэлефонам.

*"Чем секс по телефону лучше секса по интернету? В первом случае руки свободны..."*

• У Штатах створаны "вечны" бутэрброд для салдат. Пры любых экстрэмальных умовах ён павінен захоўваць свае якасці мінімум тры гады. Але ўпэўнена праверыць бутэрброд на якасць можна будзе толькі ў 2004 годзе. А беларускім настаўнікам амерыканьская раскоша не па кішэні: іх вымушаюць альбо праспансаваць пасяўную (у памеры дзённага заробку) альбо адпрацаваць на палях краіны адзін дзень.

*"Осетрина бывает только одной свежести — первой, она же и последняя" — казаў вядомы булгакаўскі персанаж.*

• Прэзідэнт Лукашэнка памілаваў асуджаную летась за шпіянаж на карысць Італіі Ірыну Ушак, пакінуўшы на нарах яе "шэфа" Анджэла Піу. Раней быў выпушчаны з турмы і адпраўлены на радзіму шпіён нямецкі — Крыстафер Лец — за яго пахадайнічалі высокапастаўленыя нямецкія асобы. А ў Іспаніі ўсё наадварот: спецслужбы зглавілі бухгалтара Усамы бен Ладэна. Наўрад ці ён хутка выйдзе з-за кратаў...

*"Не думай о секундах свысока.."*

• Беларусы выгналі з краіны ўжо другога старшыню Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ Мішэля Рывальe. Венесуэльскага прэзідэнта таксама выгналі — але ён вярнуўся на пасаду ўжо праз тры дні.

*Sometimes they come back...*

• Міністр абароны ЗША Дональд Рамсфэлд паведаміў, што Саддам Хусэйн заснаваў стыпендыі ў памеры 25 тыс. даляраў для тэрарыстаў-камікадзэ. У той жа час урад Беларусі шукае сродкі папаўнення бюджэту — з гэтай мэтай 20 красавіка будзе праведзены рэспубліканскі суботнік.

*Першай справай самалёты — а бярвёны потым!*

• Пад патранажам П'ера Кардэна ў Парыжы праходзяць Дні беларускай культуры. А беларускія маладыя сацыял-дэмакраты прыгажосць разумеюць па-свойму: да першамаю яны абвясцілі конкурс на лепшы малюнак партыйнага сімвалу — ружы.

*"Миллион, миллион, миллион алых роз из окна, из окна, из окна видишь ты..."*

• Расійскі сатырык Генадзь Хазанаў набыў сабе яшчэ адзін галаўны боль. Ён узначаліў Камітэт салідарнасці з народам Ізраіля. А беларускія ідэёлагі працу губляюць. Напрыклад, адзін з намеснікаў старшыні Бабруйскага гарвыканкама Віктар Гарбанёў, які курыраваў ідэалогію і культуру, патрапіў пад скарачэнне штату.

*"Не ходил бы ты, Ванёк, во солдаты...В красной армии штыки, чай, найдутся, без тебя большевики обойдутся"*

• Лідэры афганскіх плямёнаў папярэдзілі свайго прэм'ер-міністра, каб нават не спрабаваў вынішчаць опіюмныя плантацыі, ураджай на якіх гатовы да збору. Гарачыя афганцы абяцаюць прэм'еру, што інакш мала не падасца. У перастрэлках ужо загінулі дзевяць чалавек. Амерыканскія ахоўнікі прыроды таксама гінуць — 22-гадовая "зялёная" актывістка Бэт О'Браен разбілася насмерць, упаўшы са 150-футавага дрэва, на якое яна ўскараскалася падчас акцыі абароны лясоў у амерыканскім запаведніку Ігл Крык.

*"А на нейтральной полосе цветы необычайной красоты"*

• У сераду пасля дзесяці год каматознага стану скончыўся любімы народам серыял "Санта-Барбара". А уэльскім пратэстантам прапаноўваецца іншы серыял: замест сайту сваёй царквы яны часцяком трапляюць на старонку з гарачым амерыканскім порнашоу, бо адрэсы сайтаў адрозніваюцца ўсяго на дзве літары.

*"Не виноватая я, он сам пришел!"*





# Папярод цягніка

## Агляд заўтрашніх падзей

**19 красавіка** ў 18.00 ў памяшканні Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтру (Мінск, пр. газ. Праўда, 11) Рэспубліканская грамадская арганізацыя "Беларускае аб'яднанне маладых палітыкаў" сумесна з Прадстаўніцтвам фонда імя Ф.Эберта ў Рэспубліцы Беларусь ладзіць круглы стол "Беларусь вачыма маладых" на тэму "Маладзёжная палітыка і дзяржава". Да ўдзелу ў дыскусіях запрошаныя прадстаўнікі міністэрства адукацыі, грамадскіх арганізацыяў і палітычных партыяў, дэпутаты Палаты Прадстаўнікоў.

**19 красавіка** а 18-й гадзіне з плошчы Якуба Коласа стартуе Марш пратэсту "Так жыць нельга".

**22 красавіка** а 14-й гадзіне ў канферэнц-зале Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра IBB *(Мінск, пр. газ. Праўда, 11)* адбудзецца чарговы брыфінг Беларускіх фабрык думак.

Пададзеная заяўка на правядзенне **26 красавіка** традыцыйнага шэсця "Чарнобыльскі Шлях". Месцам збору ўдзельнікаў шэсця з 17.30 да 18.30 стане плошча Якуба Коласа. Сам Шлях, як мяркуецца, пройдзе праспектам Скарыны, далей па вуліцы Леніна да плошчы Свабоды. Там з 19.00 да 20.00 адбудзецца гадзіна смутку і малебен. У гэты ж час асобная дэлегацыя ўдзельнікаў "Шляху" перадасць у Дом Ураду петыцыю па праблемах Чарнобылю, а таксама ўскладзе кветкі да Звана Чарнобылю на пляцы Незалежнасці.

### ЭКАЛАГІЧНЫ ВАГОН

**З 18 па 20 красавіка** пройдзе Другая нацыянальная сустрэча экалагічных арганізацый Беларусі ў межах сумеснага праекту "Замацаванне пазіцый экалагічных арганізацый у Беларусі". Сустрэча ладзіцца Millieukontakt Oost-Europa, МОО "Экалагічная ініцыятыва Бурэнка" муніцыпалітэтам г. Эйндховен (Галандыя). За дадатковай інфармацыяй звяртайцеся па тэлефоне (017) 266 16 52, 269 10 01; факс: (017) 2683374; e-mail: info@ecohome.avilink.net

**18 красавіка** а 19-й гадзіне адбудзецца акцыя па прыбіранні смецця ля Барысаглебскай царквы ў Гародні "Чыстая Каложа", прымеркаваная да Міжнароднага дню аховы помнікаў і мясцін. Арганізатарам акцыі традыцыйна выступіла маладзёвая краязнаўчая ініцыятыва "Краявід". Да ўдзелу запрашаюцца ўсе ахвотнікі.

**20 красавіка** ў Гародні з нагоды міжнароднага дня аховы помнікаў і мясцін адбудзецца прыборка помніка архітэктуры — Лесвіцы Закаханых. Ладзяць акцыю Гарадзенская МГА "Гісторыка", Гарадзенская філія Моладзі АГП, маладзёвая ініцыятыва "ЛІС" і незарэгістраваная маладзёвая газета "Новы век". Збор 20 красавіка а 14-й гадзіне каля помніка Вітаўту Вялікаму, што каля Новага Замку ў Гародні.

### ПРЫЧАПНЫ ВАГОН

МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" запрашае школьнікаў Беларусі 12-14-гадовага ўзросту да ўдзелу ў конкурсе "Гісторыя беларускай дзяржаўнасці" і "Мой родны кут, як ты мне мілы..." Да разгляду ў конкурсе прымаюцца: літаратурныя творы (сачыненні на тэмы па гісторыі Беларусі, вершы пра родныя мясціны, іх гісторыю, паданні, легенды, апавяданні пра выбітных дзеячоў вашага краю).; малюнкі з вывамі помнікаў культуры, архітэктуры, краявідамі вашай мясцовасці. Пераможцаў конкурсу чакаюць прыемныя і каштоўныя ўзнагароды. Работы будуць прымацца да 3 траўня па адрасу: 220050, г.Мінск, вул. Рэвалюцыйная,15 МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" (на конкурс), кантактны тэлефон: 289 31 94.

### МУЗЫЧНЫ ВАГОН

*БМAgroup прадстаўляе:*

**18 красавіка** а 19-й гадзіне ў парк-клубе "Мінск" прэзентацыю беларуска-польскага альбома "Сэрца Эўропы in rock" з удзелам гуртоў КРАМА, НОВАЕ НЕБА, MO.RE (БЕЗЬ БІЛЕТА), zigimont VAZA, LOVE DEMISE, RIMA (Беласток).

**27 красавіка** а 19-й гадзіне ў парк-клубе "Мінск" прэзентацыю зборніка беларускага хардкора "Hardcoremania: Чаду!" з удзелам: SPLENETIC, КУКЛЫ, SHITFUN, GALINA ВЭЗУ, СОНЦА МАО, PARTYZONE, ГОЛАЯ МАНАШКА, IQ48, ICE BRAINS і інш.

**8 траўня** ў к/з "Мінск" канцэрт гурта N.R.M. разам з ZERO-85 (Польшча), DEADMARSH.

Даведкі і замова квіткоў: 8-0296 49 08 88; 211 85 85 (аб.БМА).

**Падрыхтавала Наталля Кожурава, "БМ"**

**Голодающий работник выползает на субботник
Говоря Рыгорычу: «Нам и брёвна по... плечу!»**

# Гвалт у лесе

**Прыціхлая было сытуацыя вакол Курапатаў на мінулым тыдні ўзарвалася зноў. Нечаканая міліцэйская "зачыстка" урочышча, зварот былых абаронцаў супраць "сэксу, гвалту і оргіяў" на магілах, наезд на абаронцаў з боку "Нашай Свабоды", якая абазвала іх бамжамі... Карацей, сэнсацыяў хапала.**



Тэрміновая прэс-канфэрэнцыя ў сераду праходзіла ў напружанай абстаноўцы. Напярэдадні міліцыянты арыштавалі ўсіх прысутных ва ўрочышчы і зьвезлі ў невядомым накірунку. Лёс Антона Шкурынскага, Алеся Поклада, Васіля Парфянкова і непаўнагадовай Марыі Кантаўтайтэ на момант пачатку прэс-канфэрэнцыі заставаўся невядомым. Усе інстанцыі давалі супярэчлівую інфармацыю ці не давалі ніякай...

Ужо падчас мерапрыемства раздаўся званок з прэс-службы ГУУС Мінгарвыканкама. Супрацоўніца Анжэліка Гурыновіч паведаміла, што ўсе чацьвёра затрыманых знаходзяцца ў разьмеркавальніку на Акрэсьціна. Але праз дваццаць хвілінаў у расчыненыя дзьверы нечакана зайшлі двое арыштантаў — Парфянкоў і Поклад, якія і распавялі праўду.

Каля сямі гадзінаў вечара ў аўторак ля ўрочышча прыпаркаваліся некалькі "цывільных" машын, зь якіх выйшла каля дзесятку супрацоўнікаў міліцыі. Сарваўшы з флагштоку бел-чырвона-белы сьцяг, яны пачалі пакаваць абаронцаў у машыну, прымяняючы гумавыя дубінкі. Сярод праводзіўшых апэрацыю было заважана кіраўніцтва Савецкага РАУС. У тым ліку і начальнік Бусло, які па афіцыйных зьвестках знаходзіцца ў адпачынку — па гэтым факце можна меркаваць, на якім высокім узроўні прымалася рашэньне аб "зачыстцы". За ўсім назірала выпадковая жаньчына, якая і паведаміла ў горад зьвесткі аб інцыдэньце.

Адначасова на тралейбусным прыпынку побач быў затрыманы яшчэ адзін актывіст — Сяржук Мацкойць. Яго пратрымалі ў бліжэйшым пастарунку да гадзіны ночы. Там "шпіёну" удалося падслухаць частку радыёперамоваў аб лёсе затрыманых. Іх даставілі ў ГАМ, дзе, пасьля мэдычнай экспэртызы на прадмет ап'яненьня, падзялілі. Непаўнагадовую Марыю і грамадзяніна Расеі Антона, які ня меў пашпарту, павезлі на Акрэсьціна, астатніх на ноч пакінулі ў камэры.



Распавядае Алесь — "*Камэра нагадвала месца для катаваньня. Калі я прыхіліўся галавой да сьцяны, а потым выпрастаўся, Васіль з жахам запытаўся, што з маёй галавой. Аказалася, што роўна на тым месцы, куды я прытуліўся, засохла старая пляма крыві. Таксама ўсе сьцены былі ў адбітках ботаў... Але міліцыя да нас ставілася дастаткова нармальна, калі не казаць непасрэдна аб працэсе затрыманьня.*"

Зраніцы на хлопцаў склалі пратаколы аб хуліганстве — нецэнзурнай лаянцы, непадпарадкаваньні арышту і пагрозах фізычнай расправы (?!) над міліцыянтамі. Суды над імі мусілі адбыцца ў чацьвер. Лёс Марыі Кантаўтайтэ і Антона Шкурынскага на момант здачы нумару быў невядомы.

Старшыня незарэгістраванай Беларускай Партыі Свабоды Сяржук Высоцкі паставіў гэты інцыдэнт у адзін бок з шэрагам іншых, якія ён традыцыйна лічыць "сплянаванай кампаніяй па вынішчэньні курапацкага чыну". Іншымі часткамі гэтай кампаніі спадар Высоцкі абвясьціў жорстка крытычны артыкул у аўторкавай "Нашай Свабодзе", а таксама шэраг боек і канфліктаў, у якія апошнім часам апынуліся ўцягнутымі "курапатчыкі". Паводле прэзэнтаванага Высоцкім сьпісу, такіх інцыдэнтаў налічваецца за апошнія месяцы каля дзесятку. Па факце боек і сутычак абаронцамі была пададзеная заява ў пракуратуру — якраз раніцай аўторка, за некалькі гадзін да міліцэйскага налёту.

Асобным месцам спадар Высоцкі разглядае яшчэ адзін інцыдэнт. Калі б у нас былі добра распрацаваныя палітычныя таблоіды, менавіта ён мог бы стаць наступным хітом тыдня.

Частка былых абаронцаў Курапатаў распаўсюдзіла — для пачатку сярод "сваіх" — заяву, у якой запатрабавала спыніць "сэксуальныя оргіі і бясконцыя п'янкі на месцы пахаваньняў". На гэта кіраўнікам грамадзкіх ініцыятываў давалася пяць дзён, пасьля чаго новастворацая ініцыятыва "Сумленьне Курапатаў" пагражала давесьці зьвесткі пра маральнае аблічча "сталкераў" прэсе. Можна не сумнявацца, зьвесткі былі б смажанымі — усё ж такі заяўшчыкі і самі доўгі час прысутнічалі ў лагеры, удзельнічалі ў знакамітай бойцы з АМАПам... А магчыма, і ў "оргіях". Хаця наконт апошняга цяжка казаць — сам пару разоў удзельнічаўшы ў адзначэньні урачыстых датаў, заяўшчыкаў я там не бачыў.

Высоцкі апярэдзіў "маралістаў" — ён сам раздаў журналістам копіі ліста, дасланага яму ініцыятывай, і вынес сьмецьце з хаты. Яму пашанцавала — на фоне ўрадавых правакацыяў і тэрору ультыматум выглядаў канкрэтнай "падставай" і атрымаў іншую трактоўку, чым плянавалася ягонымі аўтарамі. Высоцкі нават паставіў пагрозу абнародаваньня "амаралкі" у адзін шэраг з наездамі скінхэдаў.

Сапраўды, усё ж такі маладыя "маралісты" у нечым пракалоліся. Сказаўшы "А", трэба казаць і "Б". Калі ўжо было пастаўлена на мэце правесьці публічнае пакаяньне — дык варта было не слаць асьцярожныя лісты без подпісаў, а дзейнічаць адкрыта. Запрасіць журналістаў на п'янку і сэксуальную оргію, прадставіць відэаматар'ялы...

Не будзем маральнымі судзьдзямі — справа журналістаў падаваць факты. "Сумленьне Курапатаў" клянецца, што не мела на мэце сінхранізавацца з міліцэйскімі накатамі і артыкулам у "Нашай Свабодзе", абаронцы, якія засталіся ва ўрочышчы надалей назіраць за працай будаўнікоў, усё адмаўляюць і эмацыянальна абяцаюць паказаць "здраднікам", дзе ракі зімуюць...

З ганьбай ці без ганьбы абарона Курапатаў працягваецца — да заканчэньня будаўніцтва дарогі яшчэ мінімум месяц. Абаронцы з насьцярогай чакаюць далейшай эскаляцыі гвалту.

**А.Панкратаў, для "БМ", фота IREX/ProMedia**

*(захаваны правапіс арыгіналу)*

# Марш протеста в законе

**Марш протеста "Так жить нельзя" у очень многих политически активных людей вызывает двоякие ассоциации. С одной стороны — хорошее и нужное дело. С другой стороны — должна ли быть эта акция перед "Чарнобыльскім Шляхам-2002", не оттянет ли он людей от традиционной всебелорусской акции? А если будет "разгон" — не напугает ли это людей, которые вот уже сколько лет собирались 26 апреля на улицах Минска?**

Впрочем, организаторы заявили, что эта акция — полностью законная. "Разгона не будет" — уверенно сказал на последней перед маршем пресс-конфенции Николай Халезин. Эту уверенность можно объяснить тем, что организаторы собираются делать все по закону. И уже подали заявление в суд по поводу нарушения законности — чиновниками Мингорисполкома.

Валерий Щукин, один из организаторов марша "Так жить нельзя" заявил, что *"Горисполком, как всегда, разрешил нам только митинг. Поскольку горисполком тем самым нарушил и Конституцию, и закон, в соответствии с законом мы его действия опротестовали. Мы написали жалобу премьер-министру с просьбой отменить незаконные действия чиновников и, насколько я знаю, эта жалоба из Совмина направлена в прокуратуру. Соответствующее исковое заявление мы направили в суд. Митинг санкционирован, шествие пока нет".*

Опасения народа по поводу пересечения марша протеста с "Чарнобыльскім Шляхам-2002" организаторы первой акции не разделяют. По мнению Дмитрия Бондаренко, который состоит в оргкомитетах и первой акции, и второй, это совершенно разные мероприятия. *"Чарнобыльскі Шлях" — традыцыйная акцыя беларускай апазіцыі, і выносіць сацыяльныя водгукі на чарнобыльскую акцыю недарэчы. Наша акцыя прысвечана праблеме таго, што краінай Беларусь сёння кіруе чалавек, які часцяком схільны да ілжывых заяваў. Ніхто яго за язык не цягнуў, каб ён абяцаў кампенсаваць уклады, якія былі страчаныя насельніцтвам да 1994 года. Цытата аб "рэзкім уздыме ўзроўню жыцця беларускага народу да ўзроўню еўрапейскіх краін" узята з ягонай праграмы, якая распаўсюджвалася дзяржаўнымі газетамі. Усе мы ведаем, як ён абяцаў разабрацца па "справах зніклых" і пакараць вінаватых. Гэтыя тэмы вельмі важныя для краіны, але яны не стасуюцца з фарматам Чарнобыльскага Шляху.*

*Уся грамадскасць Расіі і Беларусі будзе назіраць, ці сапраўды пачалася лібералізацыя. Ці выканае сваё абяцанне Лукашэнка, што ў цэнтры Еўропы ні пра якое парушэнне правоў чалавека не можа быць гаворкі? Я думаю, што сацыяльную акцыю вельмі складана забараніць. Сацыяльную акцыю пад лозунгам выканання ягоных перадвыбарчых абяцанняў тым больш складана забараніць".*

Лозунгов у марша протеста будет много. Здесь и компенсация вкладов населения, и пропавшие политики, и прекращение давления на журналистов из "Пагоні"... Увеличение пенсий и зарплат и "резкое повышение благосостояния граждан" — само собой. Некоторые "государственные" журналисты назвали такой глобальный разброс "кашей" и обычными оппозиционными проблемами. Николай Халезин прореагировал не без юмора: *"Мы же обычные, оппозиционные, поэтому у нас и каша в голове. Поэтому мы считаем, что убийства людей — это тоже социальная защищенность белорусских граждан. Меня интересует: меня убьют следующим, или все-таки нет? Это и есть моя социальная защищенность.*

*Компенсация вкладов граждан. Обещал — верни моей маме 15 000 рублей. Где деньги, Саша? Увеличить пенсии, зарплаты, стипендии белорусским гражданам. Это не социальная проблематика? Резкое повышение благосостояния. Требуем — резко повысить благосостояние граждан. Если читатели, которые подписались на газету "Пагоня" и заплатили за это деньги, этой газеты не получают, потому что ее закрыли и преследуют журналистов — это социальная защищенность?"*

Организаторы не гонятся за большим количеством участников в акции. Вроде бы, им гораздо важнее качество, но никаких прогнозов они делать не собираются. Ни на "массовость", ни на "картинку". Журналистам просто было сказано: "Приходите, сами все увидите". Николай Халезин сказал: *"Заяўлена 1000 чалавек. У наступны раз будзе пададзеная заяўка на 5 чалавек, бо гэта не мае ніякага сэнсу. На першы Марш Свабоды было заяўлена 5 000, а прыйшло 25 000. Заяўлялі 10 000 на "Марш у турэмных робах", а прыйшло 13 чалавек. Пры гэтым, "Марш у турэмных робах" на старонках сусветнай прэсы быў на адных палосах з гібеллю прынцэсы Дыяны".*

Организаторы в очередной раз подтвердили: они много раз устраивали такие акции и на каждой акции им приходилось договариваться с милицией. Можно надеяться, что они сумеют договориться с ней и сейчас.

Что будет — мы увидим 19-го апреля. По крайней мере, нам обещали, что все будет законно.

**Сергей Пульша, "БМ"**

# Мы не рабы, но все же НЕМЫ?

**Очередное заседание международного пресс-клуба прошло в Минске 16 апреля. В его работе приняли участие представители Белорусской ассоциации журналистов, Центра правовой защиты СМИ, международной организации "Article XIX", российского Фонда защиты гласности. А также журналисты независимых изданий Беларуси. Представители государственных СМИ, несмотря на приглашение, мероприятие традиционно проигнорировали. Из представителей госструктур принять участие в заседании пресс-клуба согласился только начальник правового управления Министерства информации Игорь Коваль.**

Главными темами заседания стали — ситуация вокруг газеты "Пагоня" и принятие нового закона о СМИ и информационной безопасности. Несмотря на то, что судебное заседание по делу М. Маркевича и П. Мажейко отложено, успокаиваться рано, считает Жанна Литвина, президент БАЖ: "По сути, мы сейчас отстаиваем в Гродно свои профессиональные права. И от того, как мы будем это делать — зависит, сможет ли и дальше власть использовать для подавления инакомыслия уголовное преследование журналистов". Выступившие на заседании пресс-клуба адвокат М. Маркевича Сергей Цурко и руководитель Центра правовой защиты СМИ Михаил Пастухов говорили, что "дело "Пагоні" — 100 % фальсификация". Косвенно это подтвердил и начальник правового управления Игорь Коваль:

— Решение Высшего Хозяйственного Суда о закрытии газеты стало для нас неожиданным. Министерство информации не нашло оснований для предъявления иска о прекращении деятельности газеты. Направив свой отказ от иска в суд, мы ждали прекращения дела. Но суд не принял во внимание наш отказ. На моей памяти это первое дело, когда истец не согласен с иском, предъявленным ответчику.

Однако предпринимать сейчас какие-либо шаги Министерство информации не намерено.

Наибольшая дискуссия на заседании развернулась вокруг проекта Закона о СМИ. Интрига состоит в том, что последнего варианта законопроекта не видел никто. Ни Белорусская ассоциация журналистов, ни даже те, кому принимать этот закон предстоит — депутаты Национального Собрания. Но, судя по тем вариантам, что были разработаны ранее, несмотря на внешние послабления, по сути, закон еще более ужесточается. И еще более очевидным становится различие в отношении государства к газетам "чэсным" и "нячэсным". Статьи, регулирующие финансирование негосударственных СМИ, ставят под жесткий государственный контроль получение средств от зарубежных грантодателей. Анонимные пожертвования запрещаются вовсе. Тогда как государственные издания в приказном порядке финансируются из республиканского и местного бюджетов. Усложняется процесс регистрации газет — решать "быть или не быть" газете будет зависеть от благосклонности руководителей местных властей. Хотя во всем мире уже давно действует уведомительная система регистрации СМИ.



Проанализировав новый законопроект на предмет соответствия международным стандартам, эксперты из международной организации "Article XIX" отметили, что он противоречит всем основным статьям Международной Конвенции о гражданских и политических правах, которую подписала Беларусь. "Подобного закона нет ни в одной стране мира, кроме России, — отметила Федерика Прина, руководитель европейских программ "Article XIX", — со стороны белорусских властей предпринимается очередная попытка ужесточить контроль над информацией".

Действия государственных чиновников, по мнению зарубежных экспертов, должны быть более открытыми для прессы, чем жизнь обычных граждан. И это не прихоть журналистов, а общепринятая мировая норма. Иначе как препятствовать противоправным действиям зарвавшихся чиновников? Закрытие же печатного издания по двум предупреждениям, на взгляд экспертов, вообще мера не допустимая. Во всем мире закрытие СМИ возможно лишь в случае грубейших нарушений прав человека.

— Любые ограничения на получение и распространение информации должны быть максимально узкими. Во многих странах разработан специальный перечень областей, "влезать" в которые журналистам необходимо с осторожностью. И касается он, в основном, вопросов, связанных с государственной безопасностью, — заметила Федерика Прина.

Короче, критических замечаний было высказано очень много. Но, как отметил представитель Министерства информации Игорь Коваль: "Мы можем как угодно сегодня характеризовать проект закона, топать ногами, говорить, что он плохой, но зачем возбуждать себя? Нельзя рассматривать закон в отрыве от политики, экономики и права этой страны". Не правда ли многозначительное заявление?

Еще три месяца назад министр информации Михаил Подгайный на парламентских слушаниях ПАСЕ в Страсбурге дал публичное обещание направить европейским экспертам белорусский законопроект по СМИ. А присутствующие там депутаты Палаты Представителей Ваганов и Новосяд обещали устроить общественные слушания при обсуждении закона. Но пока все шито-крыто. По информации из Министерства информации, "засекреченный" закон нынче изучают в Администрации президента. На 24 апреля там запланировано совещание с участием Александра Лукашенко. Председатель БАЖ Жанна Литвина опасается, что мнение первого лица государства и станет гласом народа, а Закон Палата Представителей примет "колоурно", без всяких экспертиз и дискуссий.

**Г. Уласик, "БМ"**

• **САМвыдат**

# Тэрарызм і творчасць

У аглядзе чарговай порцыі самвыдату нашыя рукі, нарэшце, дайшлі і да такога аўтарытэтнага ў пэўных колах выдання, як гарадзенскі бюлетэнь "Разам!". Гэта выданне аднайменнай незарэгістраванай Канфедэрацыі Дзеючых Суполак, што аб'ядноўвае расчараваных дзейнасцю "фармальнай" апазіцыі актывістаў. Інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь друкуецца ўжо год і за гэты час набыў даволі моцны аўтарытэт. Прынамсі, чытаюць "Разам!" і ў Мінску, а інтэрнэт-старонка razam.by.ru мае ўжо больш за 2 тысячы наведнікаў.

У нашых руках апошні на сёння, адзінаццаты нумар. Ён атрымаўся міжнародным — беларускіх навінаў толькі чвэрць ад агульнага аб'ёму, што даволі незвычайна. Але "палітінфармацыя" аб жыцці блізкіх і далёкіх суседзяў таксама нікому не шкодзіць — прынамсі, мы нумар прачыталі з задавальненнем і цікавасцю, даведаўшыся шмат новага.

Пачынаецца нумар зваротам рэдакцыі з нагоды наступу дзяржавы на радыкальную моладзь пад выглядам "барацьбы з тэрарызмам". Далібог, тэкст варты таго, каб прысвесці яго цалкам, але, на жаль, газетная плошча не дазваляе. Вытрыманы ў традыцыйна "разаўскім" стылі зварот сканчваецца заклікам "Алах Акбар, дарагія таварышы!"...

Далей ідзе інфармацыя аб гарадзенскім з'ездзе самвыдату і матэр'ял "Гестапо выходит на охоту" — хроніка міліцэйскага тэрору ў Гародні. Аб некаторых праявах якога, дарэчы пісалі і мы.

Далей пачынаецца інфармацыя, якую вы не ўбачыце па CNN. "Талібан Захаду" — выдатны матэр'ял аб пераследзе заходнімі спецслужбамі пацыфістаў і антываенна настроеных іншадумцаў пасля падзеяў 09/11. Факты, мягка кажучы, неадназначныя...

Платформа міжнароднага руху "Аттак" — усё, што вы хацелі даведацца пра антыглабалістаў, але ня ведалі, дзе спытаць.

Вельмі цікавы расповед пра альтэрнатыўную сістэму "непасрэднай дэмакратыі", рэалізаваную ў бразільскім Порта-Алегра, займае амаль чвэрць нумару, але інфармацыя таго вартая.

І на закуску — чатыры паласы контркультуры. Лекцыя аб сацыяльна-радыкальных каранях рэп-культуры і расповед аб творча-палітычных пазіцыях аднаго з не заснавальнікаў Ice-T працягваюцца роднымі тэмамі — гурт КАЛЬЯН наладжвае непасрэдныя кантакты між беларускімі рэгіёнамі і дзеліцца ўражаннямі ад паездкі ў Воршу ды поглядамі на суадносіны рэгіянальнай і сталічнай альтэрнатыўнай сцэны.

Замовіць гэты і наступныя нумары "Разам!" можна праз паштовую скрыню: 230023, Гародня п/с 237.

Выйшаў (нарэшце!) зімовы нумар беларускамоўнага (збольшага) часопіса з рускамоўнаю назваю "Вредина". Мы ўжо казалі, што найбольш цікавы ён суб'ектыўна-дэпрэсіўным меркаваннем аўтараў і выдаўцоў, але, здаецца, забыліся адзначыць тое, што гэты зін — самы самвыдавецкі зін Беларусі. У наш век шырокага распаўсюджвання кампутарнай тэхнікі выдаўцам ламы ёю карыстацца. Таму нумар другі выглядае сярод агульнага самвыдату вельмі стыльна (нягледзячы на тое, што дэвізам нумару чамусьці стала фраза "Здесь дизайны не живут!").

Рукапісны тэкст выглядае значна цікавейшым за стандартныя кампутарныя літары. Метадам простай наклейкі тэксту на фотаздымкі выдаюць часам самы арыгінальны дызайн старонак. І гэтых смачных, добрых старонак аж 16. Ёсць што прачытаць, пра што падумаць, з кім паспрачацца.

Канешне, наконт творчасці не паспрачаешся. "Отличный депрессняк" як заўсёды выдатны. Добра было, калі б часопіс працягнуў практыку вельмі сцісілых і кароткіх рэцэнзіяў-таблетак (з задавальненнем прачытаў, як слухаць улісаўскае "Падарожжа"). Проста файныя афарызмы ад (наколькі гэта зразумела) чытачоў і аўтараў "Вредины". І добры сцёб з саміх жа самвыдаўцоў іншых выданняў наконт "інтэрв'ю з самім сабою".

Апрача гэтага "Вредина" — найбольш карысны часопіс на самвыдавецкай прасторы. На перадапошняй старонцы можна знайсці 6 адрасоў іншых самвыдавецкіх зінаў. Ну і, канешне, на сёмай — адрэсу самой "Вредины". Для тых, хто пажадае даведацца пра ўсё гэта дабро — калі ласка. Лістуйце: 220053. Мінск, а/с 39. Там вам усё і аддадуць. Калі палічаць разумным.

**А. Панкратаў, С. Пульша, "БМ"**

# Во что ж вступили на сей раз?

В Москве 15 апреля состоялось учредительное создание белорусско-российского фонда "За новую Беларусь". После года напрасных ожиданий регистрации движения "За новую Беларусь" в белорусском Минюсте легализироваться решено было в соседнем государстве. В опекунский совет, кроме экс-министра сельского хозяйства Василия Леонова, инициировавшего перед президентскими выборами создание движения ЗНБ, вошли бывший премьер Михаил Чигирь, бывший руководитель "Сбербанка" Владимир Хилько, председатель профсоюза работников агропромышленного комплекса Александр Ярошук, академик Радим Горецкий. С российской стороны – председатель Фонда защиты гласности Алексей Симонов и правозащитник Валентин Гефтер. Возглавил опекунский совет бывший председатель Союза писателей и бывший главный редактор журнала "Крыница" Владимир Некляев.

По словам Василия Леонова, среди учредителей фонда – люди самых разных политических взглядов, и крайне правых, и крайне левых. Но все они сходятся в одном: Республика Беларусь должна быть суверенным государством. Реально, а не формально, ибо сейчас суверенитета у нас меньше, чем у Татарстана. Василий Леонов отметил, что создаваемый фонд — не политическая организация. "Мы в уставе провозгласили и намерены этого придерживаться, что мы будем проводить просветительскую и благотворительную деятельность на территории Беларуси и, насколько мы сможем, на территории такой великой страны, как Россия. Ещё одна наша цель — содействовать становлению демократического общества в нашей стране и в России". Бывший министр считает, что "одна из ошибок людей, которые хотят демократических преобразований, в том, что мы слишком много уповали на страны западной демократии и слишком мало уделяли внимания работе с Россией".

По мнению Михаила Чигиря, естественно способствовать развитию взаимоотношений с российскими деловыми кругами. "Не имея тесных контактов в высших эшелонах власти России, мы имеем очень хорошие контакты в более низких кругах. По крайней мере, я знаю очень многих российских банкиров, которые имеют интерес к Беларуси и согласны здесь работать. Я считаю, что фонд внесет свою лепту в дело укрепления экономических взаимоотношений с Россией. А из России, кто бы что ни утверждал, мы получаем 80-90% нефти, 100% газа, получаем основное количество металла. И получать будем. Естественно, что от взаимоотношений с Россией зависит и благосостояние Беларуси".

Еще одно направление работы фонда – информационное. Михаил Чигирь утверждает: "Зачастую даже в высших эшелонах власти России не знают, что на самом деле происходит в Беларуси. Какая у нас средняя заработная плата, как идет приватизация... Последние события с "Балтикой" как ушат холодной воды подействовали на многих россиян, имеющих интересы в нашей стране. Они увидели, что все не так хорошо, как утверждает государственная пресса, не так желанны инвесторы, как это заявляется официально".



По словам Василия Леонова, первым делом в Беларуси фонд займется спасением сельского хозяйства. Сразу после регистрации будет предложена программа реформ в агропромышленном комплексе, которую активисты фонда станут активно пропагандировать среди чиновников и крестьян.

**А. Петровская, "БМ"**

# Моладзь супраць экалагічнага гвалту

**На трэці фестываль-конкурс, які праходзіў у гэтым годзе пад лозунгам «Моладзь супраць экалагічнага гвалту», з'ехаліся больш за 130 маладых людзей з розных гарадоў і вёсак. Маларыта, Бабруйск, Лунінец, Пінск, Чачэрск, Парычы, Мінск, Акцябрскі, Магілёў — далёка не ўсе рэгіёны, дзеці з якіх палічылі патрэбным выказацца наконт экалагічных праблемаў нашай краіны.**

Акрамя ўдзельнікаў на фестывалі прысутнічалі і паважаныя госці, сярод іх акцёр Нацыянальнага акадэмічнага рускага тэатра Аляксандр Ткачонак, арт-дырэктар West World Club Сяргей Кравец, саліст Дзяржаўнага тэатра эстрады Алег Сямёнаў, член Саюза мастакоў Леанід Маршар, прадзюсар Рок-каранацыі Юрый Цыбін, выканаўчы дырэктар арганізацыі ў Берліне «Грамадзяне Еўропы» Петэр Вольф.

З-за вялікай колькасці замежных гасцей да вядучых быў прыстаўлены перакладчык.

Кожны замежнік імкнуўся выказаць свае падзякі галоўным арганізатарам фестывалю: Наталлі Якутовіч (прэзідэнту Моладзевага Сацыяльнага Цэнтра «Майстэрня будучыні»), Ірыне Грушавой (прэзідэнту Міжнароднай Асацыяцыі Гуманітарнага Супрацоўніцтва) і, канешне, Генадзю Грушавому (старшыні Беларускага дабрачыннага фонда «Дзецям Чарнобыля»).

Самымі арыгінальнымі былі падзякі ад шатландца Рона Кенэдзі, які прадэманстраваў народны шатландскі танец, і ад сп. Трэвара, які падкупіў моладзь адным толькі сваім выразам: «Ребята, не дергайтесь. Я буду краток».

На сцэну пачалі адна за другой выходзіць каманды. Твары ў гледачоў адразу сталі напружанымі, бо ўсе добра разумелі, што зараз ідзе не проста пастановачнае шоу, а спроба данесці да прысутных важнасць у наш час экалагічных і, асабліва, сацыяльна-экалагічных праблем.

Узнімаліся пытанні аб бездаглядных жывёлах, забруджванні рэк і азёраў, знішчэнні рэдкіх відаў жывёл і раслін. З усіх гэтых праблемаў вылучалася найбольш актуальная на сёньняшні дзень — захаванне радыёактыўных адходаў у вёсцы Струга Маларыцкага раёна.

У сувязі з тым, што адказаў на лісты, накіраваныя ў Міністэрства аховы прыроды і да прэзідэнта РБ, не было, жыхары Маларыты запрасілі прысутных падтрымаць акцыю пратэсту. Для гэтага кожны, хто жадаў, мог паставіць свой подпіс у спецыяльных бюлетэнях. Жадаючых далучыцца да пратэсту было шмат.



Па словах Г. Грушавога, за тры гады правядзення такіх фестываляў шмат што змянілася. Па-першае, пашырылася кола ўдзельнікаў (з 12 рэгіёнаў да 25). Па-другое, моладзь стала больш самастойнай і разлічвае толькі на свае сілы, што вельмі суцяшае. І, па-трэцяе, гэта мерапрыемства заўважылі і зразумелі яго неабходнасць, таму сёлета так многа гасцей.

Сп. Грушавы адзначыў, што ўсе ўдзельнікі — малайцы, бо змаглі перадаць праз музыку, танцы, жарты даволі сур'ёзныя тэмы. І гэта ўсё робіцца менавіта з-за адданасці роднаму краю, а не жаданне атрымаць каштоўны прыз. А прызы ў гэтым годзе былі сапраўды каштоўныя: кампутары, факсы, апаратура для дыскатэк і шмат іншых.

Петэр Вольф, параўноўваючы наш фестываль з аналагічным нямецкім, звярнуў увагу на тое, што ў Беларусі вельмі актыўныя хлопцы. У Германіі вядучая роля ў такога кшталту мерапрыемствах належыць дзяўчынкам. Так што малайцы, хлопцы, не падвялі!

**Ксенія Яцук, для «БМ», фота IREX/ProMedia**

# 5.000 за яго — невялікі кошт

## альбо першы альбом суполкі «Пагоня»

Не выклікае сумневу, што 5 красавіка 2002 года ўвойдзе ў гісторыю айчыннага мастацтва памятнай датай, бо менавіта ў гэты дзень сябры суполкі «Пагоня» прэзентавалі ва ўправе БНФ свой, пакуль яшчэ першы, альбом.

Невялікая зала, разлічаная на паўсотні месцаў, была цалкам запоўненая. Мастакі і прыхільнікі іхняй творчасці, відаць, даўно адзін з адным не бачыліся, бо голасна, з надзвычайным ажыўленнем абменьваліся навінамі. Між тым, арганізатары сустрэчы спадар Мікола Купава, Аляксей Марачкін, аўтар макета альбому Уладзімір Крукоўскі распавядалі пра тыя цяжкасці, з якімі з'ўлялася гэтае выданне на свет. Шум у залі здолеў суцішыць былы начальнік партызанскага атрада, а цяпер доктар філасофскіх навук, прафесар Мікола Крукоўскі.

«Розныя авангардоўцы ды абстракцыяністы ёсць ніхто іншыя, як служкі сатаны! Яркі прыклад гэтаму — палотны Джэксана Полака ды спектаклі Рамана Вікцюка!» — з расстрэльнымі ноткамі ў голасе прамовіў спадар Крукоўскі, уважліва аглядаючы залу, як бы жадаючы выявіць у ёй аматараў творчасці Полака і Вікцюка. Такіх аматараў, відаць, было нямала, бо размовы імгненна сціхлі, а некаторыя з прысутных пахаваліся за спіны сваіх суседзяў, баючыся ўзняць галовы: а раптам спадар Крукоўскі прыгадае сваё партызанства? А прафесар тым часам працягваў: «Вы павінны імкнуцца да найвышэйшай гармоніі, той гармоніі, якая была ўласціва мастакам Высокага Адраджэння, і ўзорам для вас тут будзе творчасць Міколы Купавы». Нервотна-напружаны Купава ад нечаканасці ўздрыгнуў, але затым сарамліва ўсміхнуўшыся, сціпла апусціў вочы долу.

Такі стан спадара Купавы тлумачыўся агульна-крытычным пафасам папярэдніх выступоўцаў, якія ад альбома жывога месца не пакінулі. З іх усіх амаль калігулаўскай жорсткасцю вызначыўся вядомы мастацтвазнаўца Яўген Шунейка. Акрамя своечасовасці выдання, Шунейку не спадабалася нічога: аб'ём і фармат замалыя, перагружанасць творамі, банальнае афармленне, сухасць тэксту. І дарэмна Марачкін, Купава ды абодва Крукоўскія (Уладзімір і Мікола) хорам даводзілі, што грошай на стварэнне рэчы еўрапейскага кшталту папросту не хапала, а перагружанасць ілюстрацыйным матэрыялам тлумачылася жаданнем раскрыць кожнага мастака належным чынам. Шунейка іх не слухаў. За спадаром Яўгенам падхапіўся мастацтвазнаўца Пётр Васялеўскі і абурана спытаў: «А чаму гэта Уладзімір Крукоўскі прыпісаў сабе ў альбоме стварэнне эталону герба «Пагоні», калі вядома, што над ім працавала каля 5 мастакоў?». Але спадар Уладзімір, загадкава ўсміхнуўшыся, прамаўчаў. Тады Васілеўскі, яшчэ больш абураны, працягваў: «Альбом стылістычна не вытрыманы, і ўвогуле, трэба было б даць у ім месца сумесным праектам мастакоў, інсталяцыям і г.д. І да таго ж, чаму гэта на вокладцы і тытуле выяўлена такая маленькая і дробненькая «Пагоня»?!». Пры гэтых словах Купава ўвесь сцяўся, густа пачырванеў і адбарабаніў на стале нейкі NRM-аўскі матыў, Марачкін пазмрачнеў і насупіўся, што зрабіла яго яшчэ больш велічна-манументальным, і толькі Уладзімір Крукоўскі захоўваў шляхетны спакой. Выратаваў сітуацыю рэдактар альбому Зміцер Санько, які імгненна падхапіўся ды пачаў віншаваць усіх прысутных з выхадам у свет гэтага цудоўнага альбому.

Прэзентацыя зацягнулася да позняга вечара, і арганізатары пад канец былі настолькі стомленыя, што ўжо не мелі аніякага жадання адказваць на пытанні. На выхадзе я сутыкнуўся з сябрам суполкі Рыгорам Сітніцам. Заўсёдна-аптымістычны, Сітніца і тут захоўваў вясёлы настрой: «Так, альбом мне гэтаксама не спадабаўся, але, тым не меней, хлопцы папрацавалі, як маглі, і супраць іх я нічога кепскага не скажу». «А ці не здаецца вам, што сама «Пагоня» зараз знаходзіцца ў пэўным крызісе, а таму, магчыма, і альбом атрымаўся такім «крызісным»?» — запытаўся я. «Безумоўна, гэта так, але ў гэтай суполцы па-ранейшаму працуюць мастакі, чыя творчасць знаходзіцца па-за ўсялякімі крызісамі. Варта толькі прыгадаць Марачкіна, Маціевіча, Яўгена Ліс. Зараз у Палацы мастацтваў праходзіць выстава цудоўнага жывапісца, нашчадка традыцый Рушчыца Пятра Шарыпы, а восеннню адкрыецца мая персанальная выстава. Таму з нашым мастацтвам усё цудоўна! А гэты альбом, якім бы ён не быў, я шчыра раю ўсім набываць. 5.000 за яго — невялікі кошт...»

**М. Фарыдовіч, для «БМ»**



# Похвала здравомыслию

**Обычный город, дождей особых нет, менты с дубинками гоняют детей... Бобруйск, о котором здесь пойдет речь, — не совсем такой город. И бобруйчане (о которых здесь тоже пойдет речь) — не совсем "обычные" люди. Все дело не в количестве рук, ног или глаз, гастрономических предпочтениях и местечковых обычаях. Дело в том, что эти люди являют собой эталон здравомыслия и, несомненно, достойный образец для подражания. Потому что когда они начинают что-то делать, то делают это правильно (сейчас вы все поймете).**

Бобруйск — один из самых больших районных городов в нашей республике (двести тридцать тысяч жителей) с весьма богатой историей и "ветвистыми корнями". Самое древнее строение в городе — Бобруйская крепость (в 1902 году Бобруйск сгорел почти дотла — сгорела даже пожарная часть — и от старых зданий ничего не осталось), представляющая собой комплекс из вежи, оборонительных бастионов и костела и имеющая статус памятника. Иезуитский костел Петра и Павла (Фарный, т.е. главный костел древнего Бобруйска) был построен в 1615 году при материальной помощи короля Речи Посполитой *Жыгімонта Аўгуста*. После того, как орден иезуитов был официально запрещен, костел весьма практично приспособили под место проведения сеймов. В 1850-х здание горело и было воскрешено в 1910 г., однако до нас дошли лишь старые стены крепости, ряд бастионов и иезуитский костел. Долгое время крепость служила армейским складом. Сейчас она находится на территории военной части и используется как гарнизонная гауптвахта. В связи с проводящейся реформой войска мобилизационная часть расформировывается, и вопрос о судьбе историко-архитектурной ценности "остреет" с каждым днем.

Поскольку с материальной точки зрения реставрация такого комплекса — это ощутимый удар по карману города, по величине почти равного областному центру, но живущего на бюджет районного, вполне возможно, что крепость в скором времени будет снесена, а на ее месте возникнут современные "гмахи", рожденные уж не знаю какой фантазией наших архитекторов.

Проблема Бобруйской крепости довольно широко обсуждается уже полтора года, но с мертвой точки дело начинает сдвигаться лишь сейчас, благодаря общественной инициативе (надеюсь, в будущем — общественной организации) "Свая Справа", предлагающей местным властям свой план действий, связанных с сохранением и восстановлением комплекса. Спасение исторической ценности будет осуществляться путем объединения усилий государства, общественности и католической церкви.

Если этот вопрос будет решаться совместно, то и средства на реставрацию будут найдены общими усилиями. Материал, опираясь на который строения можно восстановить, имеется, — над этим уже активно поработали специалисты. Город сможет гордиться отреставрированной крепостью, которая своим видом не только подтвердит статус архитектурного наследия, но и сможет испробовать себя в новом амплуа — как экскурсионный комплекс.

Вопрос о сохранении культурно-исторических ценностей — серьезный, и подход к нему тоже должен быть серьезным. Такие проблемы должны становиться общим делом, ведь самое главное — спасти памятник, а не то, кто будет героем, "галоўным абаронцам" и проч. Здесь нельзя брать нахрапом, пытаться решить все за один день, в случае неудачи начинать грызню и т.д.

Яркий пример тому — Куропаты. Общая боль страны, которую каждый понял почему-то по-своему, отчего все приобрело ярко выраженный политический характер. Общее горе должно объединять людей. А касательно политики... Неужели никто так до сих пор и не понял — беларусу политика до фонаря...

Точно знаю, что следующую фразу писать не стоит, но все-таки... Умные люди не играют в "войнушку", делясь на "плохих" и "хороших", когда решают действительно серьезные вопросы. Я — не за тех и не за других. Я — за здравый смысл.

**Александр Галецкий, для "БМ"**

# П.И.О.Т.К.У.К.У.К




# НЕЙРО ДЮБЕЛЬ

Ну, вот и он — новый альбом «Дюбелей». Три года молчания, новый гитарист (любимый народом Максим «Паровоз» уезжает в Москву, но на этом альбоме еще играет на пару с Олегом Громовым), и... Праздник удался.

Уже на презентации стало ясно — ребята форму не потеряли, более того из всех «олдовых» рокеров, пожалуй, только им удалось сохранить исходный драйв, задор и непосредственность. Наверное, потому, что «звездной» болезнью никогда не страдали. Теперь к альбому.

Честно говоря, заявленная концепция «детских» песенок слегка настораживала. Ну, не верилось, что можно сделать хорошую программу сугубо на притянутой «за уши» концепции стеба над телепузиками, покемонами, Карлсоном и т.п.

И правильно не верилось! «Детских» песен на альбоме только три, и, наверное, это правильный ход. Они слушаются как фоновые, скрепляющие все остальное. Не знаю, почему Саша в своих интервью делал ставку на заглавного «Карлсона», как на единственный хит в альбоме. Да, песня заигранная и драйвовая. Но стоящих вещей в программе очень много... и это совсем другие песни.

Впрочем, не будем жлобствовать: провалов нет, «Дюбель» — это вам не гаражная команда. И даже проходные вещи слушаются классно, цепляя если не с первого, то со второго или третьего раза. Всем бы так...

Теперь об изюминках. Фанаты беларускамоўнага року с нетерпением ждали обещанного перехода на мову. Таких тем в альбоме три и все достаточно разнообразные. Если на первой «Я памру тут» НД слушается еще как-то непривычно и по-новому (впрочем, тема стоящая — одна цитата «Ён, яна і візы ў Польшчу... А я памру тут!»). А дальше – «Дюбеля» нехило украшают обойму белорусскоязычных команд. Совершенно классная в НДшном стиле юморная зарисовочка «Пра паперу» и убойнейшая тема на стихи Короткевича «Скрыпка дрыгвы». По поводу последней: качественная поэзия, в тему положенная на тяжелый рок, сыгранный искренне и качественно. N.R.M. отдыхает!

За что любят «Дюбель» — за выплеск эмоций, часто бессвязный и не вполне литературный, но искренний. Особенно хорошо это видится/чувствуется на живых концертах. А вот на записи, местами, весь драйв и энергетика теряются, оставляя невнятное ощущение. И просто замечательно, что иногда драйв удается передать на все сто. В данном случае речь о боевике «Самураи» — угар, грохот, взрывы вокала, все слаженно и по-концертному. Кажется, сейчас из динамиков в комнату ворвутся Куллинкович с Паскудой, размахивая фляжками и стойками микрофонов. Супер! (не в смысле продюсера, а в смысле впечатления :).

Еще один хит — кавер «Рамштайна» под титулом «Бухаст». Слышать надо, а не читать... А самых удачных песен лично я на альбоме выделю две — драйвовый и заводной «Ракенрол», программная вещь, жаль, если она почему-либо быстро «соскочит» с концертного репертуара. И совершенно новая, приятно удивившая, рок-н-ролльно-лиричная «Мост через небо». Саша внезапно повзрослел — не в смысле возросшего цинизма, а напротив — оптимистичного отношения к жизни. Из песни брызжут весна, солнце и НЕЙРО ДЮБЕЛЬ — без паясничанья, со здоровым весельем и радостью. Подольше тебе этой весны, Саша!

Ну и коротко о том, что еще можно услышать. Два перепетых старых хита — «Большая наша мечта» и «Женщина моих галлюцинаций». Новый ска-рок-н-ролл (?) «Терплю я». И мечта советского панка — песня с откровенным припевом «Ё.Т.М.». Последнюю хорошо в редакции слушать, когда номер в аврале сдается и сил больше нет (впрочем, подходит и для других экстремальных ситуаций).

В довесок два бонуса от друзей группы «САМПРОЦЕСС» — в одном из них на бэках засвечен все тот же няўмiручы А. Куллинкович. Весьма неплохие темки достойно закрывают альбом.

По дюбелевской концертной традиции на прощание представляем состав. Программу писали Юрий Наумов — бэк-вокал, Андрей Степанюк — барабаны, Макс Ивашин — клавиши, Максим Паровой и Олег Громов — гитары, Стас Поплавский — бас и Александр Куллинкович — вокал, тексты и все прочее. Всем спасибо!

**Sanitar, для «БМ»**

# ГОЛАЯ МАНАШКА не супраць наркаманіі і гомасэксуалізму

**Гады два ці тры таму мы мелі глупства паабяцаць гурту ГОЛАЯ МАНАШКА інтэрвію на нашай старонцы. Чаму глупства? Дык таму, што ў той час ГМ была чымсьці вельмі для вушэй і розуму не спрыяльным: тэксты кшталту "гаў-мяў", мінімум сэнсу, максымум сцёбу (сцёб — ва ўяўленьні ўдзельнікаў гурта. Прэзэрватыў на гітары, ці дзе ён тады болтаўся на "Першай пляцоўцы" — гэта нават і ня смешна).**

**Дык вось, паабяцалі мы інтэрвію і спакойна на гэта забыліся. А ГОЛАЯ МАНАШКА — не. Кожны раз, сустракаючы тусоўшчыкаў "БМ", запытвалася: ну калі ж мы паразмаўляем? Свярбіла ім свае думкі да грамадзкасьці данесьці... "Пачакайце, — казалі мы ім, — пасталейце, а там можа і паразмаўляць будзе пра што".**

**І вось, нават не праз тры гады, — зорны час напаткаў і ГОЛУЮ МАНАШКУ. Удзел у зборцы "Hardcoreманія" у якасьці аднаго з хэдлайнераў — цалкам нармалёвая нагода, каб паразмаўляць пад вясновым сонейкам з вакалістам каманды Фёдарам Жывалеўскім. Размова атрымалася на дзіва вясёлая, цікавая, а месцамі папанкаўску неардынарная і правакуючая. Карацей, чытайце, зьдзіўляйцеся...**

***— З чым ГОЛАЯ МАНАШКА падыходзіць да зборкі, што за тэму вы там будзеце граць?***

— На зборнік мы зьмясьцілі песьню "Стандарты маралі" — гэта ўступная песьня да нашай праграмы. Яна — пра наркотыкі, як альтэрнатыву маральным стандартам.

***— А як ГОЛАЯ МАНАШКА ставіцца да наркаты?***

— Мы супраць наркотыкаў. Наколькі я ведаю, астатнія ўдзельнікі каманды нават не ўжываюць сьпіртное й цыгарэты.

***— Хто зараз у складзе гурта?***

— Дзіма Оранж — бубнач, які з 1999 году тусуецца разам са мной. У 2001 годзе да нас прыйшоў Андрэй Бакей і стаў басыстам. І я — вакал, гітара, часам — на розных нойзавых рэчах накшталт трубы жасьцянай даводзіцца граць...

Гурт утварыўся напрыканцы 1998 у сьнежні, але сапраўдным днём нараджэньня каманды мы лічым вясну 2000 года — калі мы нарэшце здолелі прадставіць першую нармальную канцэртовую праграму. Мы гралі яе з былым басыстам, а калі ён сыйшоў, уся праграма паляцела, мы нават нічога не запісалі.

Зараз выступаем з новымі песьнямі — больш дэпрэсыўнымі, больш глючнымі. Мы сталі дарослымі, больш сур'ёзную музыку пачалі граць, чым раней. Сур'ёзную ў тым сэньсе, што адшліфаваліся аранжыроўкі, тэксты. Раней нас называлі агалцелым панкам, а зараз гэта манатонныя запілы тыпу рэгі, але ў гранджавым гучаньні...

***— А хардкор тут якім бокам?***

— Ну, дык да яго мы "прыстаканіліся" на заказ. Прэзэнтаваная на зборніку песьня — гэта пародыя на хардкор, на хардкоравыя штампы. Увесь прыкол у тым, што там якраз ідзе гаворка пра стандарты маралі, якія дасталі... А сама песьня такая стандартная, модная, прыгожая.

Мабыць, з падачы Лявона Вольскага Супрановіч нам прапанаваў паўдзельнічаць у зборніку. Калі Лявон паслухаў нас на Басовішчы і я яму сказаў, што мы граем грандж, ён запярэчыў: "Не, не... гэта насамрэч рэпкор". Дрэнна паслухаўшы ГОЛУЮ МАНАШКУ, Лявон Вольскі зрабіў высьнову, што мы граем рэпкор... і ў выніку — мы на зборцы ў Супера.

Я ня ведаю, ці будзем мы з ім далей працаваць... Прынамсі, пакуль не зьбіраемся ляяцца. Няма нагоды. Калі будуць нейкія нармальныя прапановы, можам і супрацоўнічаць. Што тычыць таго канфлікту, пасьля якога гарадзенскія хардкоршчыкі байкатуюць БМА — канешне, я за гарадзенцаў. Супрановіч гэта выдатна ведае, ён ведае маю пазыцыю. І гэта для мяне плюс — цяпер ён не будзе са мной так паступаць, як ён калісьці зрабіў з гарадзенцамі. Ён проста пабаіцца гэта зрабіць. Калі ён пазбавіць сябе кантакту з панкамі яшчэ і зь Менску — гэта гарантаваны правал...

***— А ці можна казаць аб наяўнасьці ў Менску нейкай устойлівай тусоўкі панк-каманд?***

— Зараз пачынаюць раскручвацца нашыя сябры ПСІХОЗ, якія таксама, як і мы, пішуцца на S-LAB студыі. Раней была файная каманда ПРАВАКАЦЫЯ, зараз я ня ведаю, што зь ёй. Мабыць ужо ўсё, хана гэтай камандзе. Ёсьць невялічкія падвязкі з пачынаючымі гуртамі — іх шмат, усе не прыгадаеш.

У свой час мы гралі канцэрты разам, клікалі адзін аднаго на свае выступы. Увесь час былі побач, увесь час раіліся паміж сабой, што нам рабіць. Гэта такая тусоўка, дзе музыкі не прывыклі зайздросьціць адзін аднаму. Таму ўсё нармальна, таму мы сябруем.

***— Раней канцэрты былі на гаражным узроўні ці ў клюбы клікалі?***

— На розным узроўні. Больш за ўсё было канцэртаў у "Касмаполітэне" — вечная яму памяць. Асабліва мне падабаліся выступы ПРАВАКАЦЫІ. Але мабыць з-за таго, што каманда існавала працяглы час без выхаду на вялікую сцэну, музыкі вырашылі завязаць. Ім проста надакучыла граць у гэтых гаражных клюбах.

***— А МАНАШЦЫ не надакучыць праз пару год?***

— Не ведаю, не надакучыла пакуль. Зараз плянуецца экалягічная акцыя — ці то ў "Мэдыюме", ці то ў "Граффіці" канцэрт, абсалютна безбюджэтны — мы нічога за гэта не атрымаем. Ды ў прынцыпе я ніколі за свае канцэрты, за свае запісы і не атрымліваў ніякіх грошаў. І мне на гэта плявала.

Шоу-бізнэс — гэта не мая справа. Няхай гэтым займаюцца тыя, хто павінен гэтым займацца. А калі яны працуюць няправільна — хай гэта застанецца на іхным сумленьні. Мы сваю справу робім спраўна, мы робім музыку. Вось і ўсё.

***— Ці можна сказаць, што вашая творчасьць — прапаганда наркотыкаў, глючнага і дэпрэсыўнага стану, ці гэта наадварот — заклік да "неўжываньня"?***

— ГОЛАЯ МАНАШКА — гэта ўжо ня проста праэкт. Ня ведаю, як для каго, а для ўдзельнікаў гурта гэта вобраз жыцьця. Мы прывыклі ў нашай творчасьці паказваць усё, што з намі адбываецца. Не хаваючы нічога. Калі ёсьць нейкія моманты, зьвязаныя з наркатой ці з травой, навошта маўчаць аб гэтым? Ёсьць — значыцца ёсьць. Значыць, жыцьцё такое, такі ўзровень жыцьця ў нашай краіне.

Я — сярэднестатыстычны падлетак, які вырас і жыве ў Рэспубліцы Беларусь, у горадзе Менску. Жыве як нелегал...

***— Чаму як нелегал?***

— Таму што нелегал. Я павінен шмат грошаў дзяржаве — невядома за што, але гэта ўсё штрафы, гэта ўсё па законе. Па законе я не павінен жыць там, дзе я жыву зараз. А калі я не буду жыць там, дзе я жыву зараз... Калі я буду жыць там, дзе я прапісаны, не будзе ніякага жыцьця. Побач з псіхапатамі, з раёным мянтом, які ўвесь час мяне вычапіць імкнецца...

Усё ў развале. Усё коціцца да таго, што проста ў краіне пачунцца масавыя зрухі дахаў у людзей. І ў нас зьявяцца новыя героі — маньякі, забойцы ці проста хворыя людзі. "Навінак" на ўсіх ня хопіць. "Навінкі" і так ломяцца ад хворых. А калі ў моладзі пачынае зьяжджаць дах, гэта ўжо аб нечым кажа. Я ўжо чакаю, што вось-вось зьявяцца нейкія беларускія Боні і Клайд альбо Мікі і Мэлары...

***— Ці лічыш ты сам сябе маладзёнам са зьехаўшым дахам?***

— Сябе кім-небудзь лічыць складана, але мае знаёмыя мяне такім лічаць, гэта натуральна.

***— Чым ты займаесься апрэч музыкі?***

— Жывапісам — але ня тым, які ўсе прывыклі бачыць. У мяне нават жывапіс экстрэмальны — на лістах са школьных альбомаў спрабую замалёўваць глюкі і кашмары, начныя каляровыя жахі... А таксама ў нас ёсьць тусоўка, якая рабіла фэст "СуПкультура" і зараз працягвае ўчыняць розныя пэрфомансы. Апошні быў сёмага красавіка, мы ўпяцёх босыя прайшліся па горадзе. Нават надвор'е нам "спрыяла" — плюс тры градусы, сьнег валіў, лужыны паўсюль. Але, як ні дзіўна, ніхто не захварэў. І тыя пяць чалавек плюс тусоўка, што ішла побач з намі ад плошчы Якуба Коласа да "Цэнтару абутку", выглядалі як нейкая экспэдыцыя іншапланетнікаў.

Ідэя гэтага экшну: мы — нешта накшталт новага народу, элемэнтарныя арганізмы новай фауны плянэты Зямля, якія выстаўляюць сябе прарокамі, распавядаюць людзям пра тое, што хутка будзе Апакаліпсіс, але ён прыйдзе не па нашыя душы.

Людзі ня могуць і не жадаюць, ня здольныя жыць па законах братэрства. І я лічу, што лепшае, што можа здарыцца з чалавецтвам — гэта мутацыя. Калі мы муціруем у патрэбны бок — можа тады мы пабудуем грамадзтва братэрства і справядлівасьці.

***— Часткова з гэтым перaклікаецца і песьня на зборцы...***

— У гэтай песьні падлетак зьвяртаецца да сваёй мамы. Ён кажа — мама, ты мусіш мне паверыць, што я самы няўдзячны на сьвеце сын. І лепей, каб ты праверыла мяне на ўтрыманьне ў крыві кіслаты. Тады ты будзеш ведаць, што вінаваты не клімат і не жыцьцё — вінаватыя наркотыкі. Твой сын проста падсеў, знайшоў альтэрнатыву стандартам маралі.

Гэта хутчэй песьня пра безвыходнасьць — акрамя наркаты, альтэрнатывы стандартам маралі мы ня бачым.

Патрабаваньні ўвесь час да людзей былі вялікія. А якія могуць быць патрабаваньні да звычайных падлеткаў? Ім нікто нічога не прапаноўвае. Усё згніла. Усе аддзяліліся нейкімі кучкамі і тусьнямі. Хтосьці зашыбае грошы, хтосьці іх не зашыбае... Усе займаюцца сваімі справамі, не зьвяртаючы на астатніх людзей ніякае ўвагі.

Нашая творчасьць — гэта спосаб зьвярнуць на сябе ўвагу, выдзяліцца, спроба самавыражэньня. Як сказала адна знаёмая, нашая тусоўка ў нечым нагадвае ёй асяродзьдзе Эндзі Уорхала — усе адхіленыя мясцовыя мусяць ісьці і прыцягвацца да нас. Што заўгодна — наркаманія, гомасэксуалізм — мы ня супраць...

**Sanitar, для "БМ"**

*(захаваны правапіс арыгіналу)*

## Конкурс ад Беларускай Музычнай Альтэрнатывы

27 красавіка ў парк-клубе "Мінск" і 8 мая ў к/з "Мінск" БМАgroup прэзэнтуе альбом "Hardcoreманія: чаду!". З гэтай нагоды прапануем абяцаны раней конкурс.

Адкажы на пытанні і атрымаеш каштоўныя прызы!

1. Назавіце першы стылістычны беларускі CD-зборнік.
2. Як называецца сольны праект гітарыста N.R.M. Піта Паўлава, якім будзе пачынацца альбом "Hardcoreманія: чаду!"?
3. Як называецца польскі гурт з гэтага праекту, назва якога супадае з нумарам айчыннай даведачнай службы?
4. Гурт ZET прадстаўлены на альбоме новай канцэртнай кампазіцыяй "Раз, два, тры". З якога славутага фестывалю гэты запіс?
5. У назву якога хардкор-гурта ўваходзіць імя кітайскага правадыра?

Такім чынам: бяры аркуш паперы, уключай мазгі і працуй—заробіш класны прыз!

Свае лісты дасылай да 25 красавіка на адрас: 220085, Мінск, а/с 5. Не забудзь пазначыць, як з табой скантактавацца!

**БМАgroup**

• Там, дзе нас няма

# Дайце міру шанц

**Падобна, што ў Амерыку вяртаюцца шасцідзесятыя. Па тэлебачанні нам здаецца, што ўсё нармальна — абывацелі адыходзяць ад наступстваў вераснёўскіх тэрактаў і глядзяць мірнага "Уладара пярсцёнкаў", амерыканская армія вядзе ў гарачых кропках барацьбу з сусветным тэрарызмам. У той жа час амерыканскія студэнты і проста пацыфічна настроеныя грамадзяне ўсё больш раскачваюць грамадскасць — супраць ваенных дзеянняў у краінах трэцяга свету. Такога не было з часоў вайны ў В'етнаме.**

Пасля вядомых падзеяў сусвет ахапіла эпідэмія "барацьбы з тэрарызмам". У выніку зараз баявыя дзеянні пад гэтай шыльдай вядуцца ў Калумбіі, на Філіпінах, на парахавой бочцы сядзяць Емен і Грузія. Самы гучны канфлікт — на Блізкім Усходзе, дзе ізраільскія танкі зачышчаюць мяцежную Палестыну.

Зразумела, са злом трэба змагацца. Але, як лічаць сучасныя пацыфісты, часцяком барацьба з тэрарызмам — толькі нагода, каб зарабіць больш грошай ваенна-прамысловым канторам, якія маюць свае моцныя лоббі ва ўладзе. Простыя грамадзяне, якім "сусвет у вагні" не даспадобы, свайго ўплыву ва ўрадах не маюць. Затое яны маюць права патрабаваць — і размаўляюць з кіраўнікамі дзяржаваў з вуліц і плошчаў.

Напачатку дзевяностых было папулярнае меркаванне, што "гісторыя скончана". Маўляў, больш не будзе ні сусветных войнаў, ні грамадскіх хваляванняў — толькі ціхае спакойнае існаванне. Войны не спыніліся — і заснуўшыя ў 1973 амерыканскія пацыфісты ізноў выйшлі на вуліцы.

Пятага красавіка ў Нью-Ёрку прайшла дзесяцітысячная антываенная дэманстрацыя. На гадавіну забойства Марціна Лютэра Кінга кааліцыя A.N.S.W.E.R. ("Act Now to Stop War & End Racism"), што расшыфроўваецца адначасова як "адказ" і як "ініцыятыва за спыненне вайны і вынішчэнне расізму", распачала кампанію нацыянальнай мабілізацыі для пацыфісцкага маршу на Вашынгтон 20 красавіка — нешта накшалт нашага мінулагодняга "Выбірай!" толькі пад антываеннымі лозунгамі.

Перад гэтым у дзесятках гарадоў і буйных універсітэтах прайшлі акцыі падтрымкі акупаванай Палестыны. Студэнты, якім надакучыла біць лынды ці рабіць кар'еру, ізноў, як у 1968 годзе, лезуць у палітыку. Ізноў буяняць студэнцкія кампусы. У легендарным Берклі паўтары тысячы студэнтаў удзельнічалі ў сядзячай забастоўцы, чатыры дзесяткі з іх было арыштавана. Падтрымалі акцыю і ў Сан-Францыскім дзяржаўным універсітэце, і ў пары дзесяткаў іншых навучальных установаў.

Зараз практычна кожны дзень у Штатах адбываецца які-небудзь пэрфоманс, скіраваны на ўзгадкі пра мабілізацыйную кампанію і суботнюю мірную акцыю. Стаміўшыся ад трыццацігадовай апатыі, пацыфісты прыдумляюць усё новыя і новыя формы. Напрыклад, "Дзень падаткаў" быў ператвораны актывістамі ў "Дзень антываенных падаткаў": сабраўшыся каля паштовых офісаў, яны нагадвалі ўсім адсылаючым дэкларацыі, што частка іхніх грошай пойдзе на вайну — замест адукацыі, медыцыны і будаўніцтва жылля.

Нясоладка прыходзіцца і лектарам, што чытаюць ва універсітэце лекцыі аб міжнародным становішчы. Прынамсі, аднаго прафесара-мілітарыста ўважліва выслухалі. Але, замест апладысментаў, небараку напаткалі арганізаваны свіст і антываенныя транспаранты, загадзя схаваныя пад парты.

Карацей, амерыканскім студэнтам жывецца весела. Але ўдзельнічаюць у новым пацыфічным руху не толькі яны, але самая розная публіка — ад "Святароў за мір" да прафсаюзу аўтобусных кіроўцаў і суполак нацыянальных меншасцяў. Падобна, што ўпершыню за трыццаць год з'явілася ідэя, якая аб'ядноўвае ўсіх палітычна актыўных гуманістаў. Ідэя ўсё тая ж — на транспарантах лунаюць старыя слоганы: "Make love not war" і "Foods not bombs". З'явіўся, праўда, і новы — трапны каламбур, што абыгрывае назву сучаснага руху: "War is not the A.N.S.W.E.R.!" ("Вайна — гэта не адказ!").

Нехта можа палічыць пацыфістаў ледзьве не наймітамі Бен Ладэна. Але нават на сімбалі кааліцыі A.N.S.W.E.R. прысутнічае стужка з надпісам у памяць ахвяраў адзінаццатага верасня. Як лічаць актывісты, лепшы спосаб ушанаваць памяць ахвяраў — рабіць усё магчымае, каб спыніць войны і гвалт ва ўсім свеце. Бо, як вядома, гвалт можа парадзіць толькі гвалт, а тэрарызм часцяком спараджаецца войнамі. Зрабіць так, каб апрэч лязгату зброі свет пачуў і голас розуму — галоўная задача актывістаў.

Дарэчы, яскравы прыклад узаемадзеяння грамадзянаў з урадам: без аніякіх праблем мітынгоўцам (якіх мяркуецца каля сотні тысячаў) дазваляюць сабрацца наўпрост каля Белага Дому і потым некалькі гадзінаў маршыраваць у самым цэнтры амерыканскай сталіцы, пераходзячы ад рэзідэнцыі прэзідэнта да будынку грознага ФБР і іншых дзяржаўных інстытутаў. Гарадскія ўлады нават перакрываюць рух транспарту, каб не перашкаджаць самай буйной пацыфісцкай акцыі за апошнія трыццаць год.

Гледзячы на выдатную арганізацыю амерыканскіх пацыфістаў, на аператыўную інфармацыю ў інтэрнэце пра ход падрыхтоўкі акцыі, на карэктнае супрацоўніцтва арганізатараў з мясцовымі ўладамі, проста зайздрасна становіцца, узгадваючы хмурыя твары нашай міліцыі і бясконцыя вандроўкі на Бангалор...

Адзіная лыжка бруду ў гэтай карціне — тое, што, нягледзячы на трыццацігадовую гісторыю змагання за мір ва ўсім свеце, сённяшняй моладзі даводзіцца зноў тлумачыць "старэйшым таварышам": вайна — не сродак палітыкі, а на крыві справядлівасць не пабудуеш. Фактычна тыя, хто сёння кіруе светам — пакаленне адмаўленцаў В'етнама — самі ідуць супраць уласнай маладосці. Куды занясе сённяшніх пацыфістаў праз трыццаць год, і ці перарвецца калі-небудзь сумнае замкнёнае кола? Невядома...

Sanitar, для "БМ"

STOP BUSH/SHARON WAR ON PALESTINE

APRIL 20
MARCH on the WHITE HOUSE
against WAR&RACISM
What can you do?
BUS INFO:
Organizing Centers:
international A.N.S.W.E.R. coalition
Act Now to Stop War & End Racism
www.internationalanswer.org



• Под знаком "Ч"

## Баллада о чернобыльских ликвидаторах

Слова Валерия Дядичкина
Музыка Виктора Войтика

В темпе марша

Е- ще ни-что не предве- щало в ап-ре- ле а-том- ной бе- -ды, и яр- ко сол-нышко си- я- ло, и не- ба купол мирным был. Лишь пла- мя ди- ко бу- ше- -ва- ло, и жад- ным жерлом кло-ко- та- ло, и в не- бо ярост-но швыря-ло фонта- ны пы- ли и зо- лы!

1. Еще ничто не предвещало
В апреле атомной беды:
И ярко солнышко сияло,
И купол неба мирным был.

Лишь пламя дико бушевало,
И жадным жаром клокотало,
И в небо яростно швыряло
Фонтаны пыли и золы.

2. Они шагнули прямо в пекло,
Как их отцы шагали в бой,
Под тучи ядерного пепла,
Рискуя жизнью и судьбой.

А кровь бурлила и кипела,
Из красной становилась белой,
И мигом голова седела,
Но снова продолжался бой!

3. А радиация косила
Не разбирая, всех подряд.
Уже планета вся молилась
На тех отчаянных ребят.

Что, все прекрасно понимая,
Собой полмира закрывая,
Руками стронций собирая, —
Тем ликвидируют... себя.

4. Не ради славы, вы поверьте,
Они творили чудеса,
А чтобы всюду на планете
Звенели счастьем голоса.

И чтобы солнышко сияло,
И речка весело журчала,
Березка ласково шептала
И голубели небеса.


"Беларуская маладзёжная"
Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета
Заснавальнік
Рэдакцыя газеты "Беларуская маладзёжная"
Рэдакцыйная калегія: А. Г. Пятроўская — загадчык аддзела інфармацыі, І.А. Слаўнікава — загадчык аддзела па сувязях з дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі.

*Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, друкаваць артыкулы дзеля палемікі*

Адрас рэдакцыі:
220134, Мінск,
вул. Якубоўскага, 15-1-77
Кантактныя тэлефоны: 57-00-43, 20-98-04
E-mail:belmol@irex.minsk.by
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 665
Пры перадруку спасылка на "БМ" абавязковая

Падпісана ў друк 18 красавіка 2002 г. у 14.30
Надрукавана з дыяпазытываў заказчыка ў паліграфічным УП "Светоч", 220073, г. Мінск, вул. Камуністычная, 14.
Кошт свабодны
Тыраж 3000 экз. Заказ № 429

Галоўны рэдактар
Т.І. Мельнічук (Нічыпарук)

Падпісны індэкс
63309